БЛІЦ

# Вярхоўная Рада Украіны абмяркоўвае праект закона аб куплі і продажы зямлі

*А ці не наспеў час вырашыць гэту праблему і ў Беларусі?*

*А дзе ж той выхад? Дзе збавенне?*
*З нявolі цяжкай, з палонення?*
*Адзін ён ёсць: зямля, зямля,*
*Свой пэўны кут, свая ралля.*
*То – наймацнейшая аснова*
*І жыцця першая умова.*
*Зямля не зменіць і не здрадзіць,*
*Зямля паможа і дарадзіць.*
*Зямля дасць волі, дасць і сілы,*
*Зямля паслужыць да магілы,*
*Зямля дзяцей тваіх не кіне,*
*Зямля – аснова ўсёй айчыне.*

**Якуб КОЛАС**, *«Новая зямля»*.

### Уладзімір МАТУСЕВІЧ,
**фермер, гаспадар «Маёнтка Матусевічы» (Мінскі раён):**



– Сачу за падзеямі ва Украіне, і што тычыцца зямлі, то маё такое меркаванне: зямлю трэба прадаваць! Узгадайце часы до 1938 года, як жылі Заходняя Украіна і Заходняя Беларусь. Там зямля прадавалася, людзі хацелі яе набыць, а не маглі. Ехалі ў Паўночную і Паўднёвую Амерыку, працавалі на бойнях, назапашвалі грошы, вярталіся праз 5–6 гадоў і куплялі на радзіме зямлю. Але потым прыйшлі Саветы, і ўсе ведаюць, што атрымалася…

Хаця, канешне, людзі сёння іншыя. Нас адвучылі працаваць на зямлі. Няма гаспадароў – людзей, якія здольны ехаць на край свету і зарабляць грошы, каб купіць зямлю… Але ж, думаю, пакрысе гэта будзе мяняцца. Закон аб продажы зямлі мог бы дапамагчы сённяшнім вясковым пенсіянерам, якія ўсё жыццё аддалі калгасу і ў старасці засталіся з жабрацкай пенсіяй. Калі б калгасныя землі раздалі на паі і дазволілі калгаснікам іх прадаць, то яны хоць нейкія грошы атрымалі б.

І потым – чаго баяцца?! Зямлю ж не вывезеш.

Я яшчэ за савецкім часам, у 1991 годзе, атрымаў 40 гектараў зямлі ў пажыццёвае карыстанне з правам перадачы ў спадчыну. І сёння я ўжо не кіраўнік сваёй гаспадаркі, перадаў упраўленне сыну і хацеў зямлю перадаць, але не дазволілі, сказалі, што калі памру, тады пяройдзе яму ў спадчыну. Але я не хачу паміраць, таму працуем разам. Сыну таксама падабаецца быць гаспадаром на зямлі. Яна нас корміць.

Прычым у нас не ўсе 40 гектараў – сельгасугоддзі, 20 з іх – гэта лес, луг, возера. Вырошчваем рэдкія для Беларусі культуры, справа ідзе паспяхова. Наймаем людзей на сезонныя працы, са Століна да нас прыязджаюць, і я маю задавальненне ад таго, што даю людзям работу.

Таму, канешне, лічу, што ў зямлі мусіць быць гаспадар.

### Васілій ГАРОШКА,
**Герой Сацыялістычнай Працы, былы старшыня калгаса імя Горкага (Пінскі раён):**



– Маё меркаванне: нельга гандляваць зямлёй! Колькі ў нас той зямлі? Вы бачылі хоць адзін пустуючы кавалачак, зарослы пустазеллем? Пакуль улада зямлю апрацоўвае! Вось калі ўлада запусціць яе, тады народ сам запатрабуе: «Аддай зямлю!» І зробіць так, што зямля стане па-сапраўднаму народнай. Але ж я ведаю, што гэта не брахня…

У маім калгасе калісьці было 1200 чалавек, але ж ніхто, ніводны вясковец, не прыйшоў і не папрасіў зямлі. Я ў той час сілай навязаў эксперымент: у адной брыгадзе стварыў звяно і аддаў у арэнду 3 тысячы гектараў. Вы б бачылі, што яны з той зямлёю зрабілі! Выцiснулі ўсе сокі! Я быў вымушаны перапыніць гэтую арэнду і забраць зямлю назад у калгас. Тады я і сказаў, што зямлю, як і жонку, у арэнду аддаваць нельга. У арэнду можна аддаць трактар, дом, але не зямлю.

Думаю, што за апошнія гады нічога не памянялася. Больш за тое, беларусы адвучыліся працаваць на зямлі. Калі яшчэ ў маладосці я працаваў у Аснежыцкім і як аграном быў старшынёй камісіі па раздачы зямлі людзям пад соткі, то бачыў, як селянін браў паўгектара і прасіў яшчэ дадаць. А што зараз?! Ад зямлі адмовіліся цалкам, цяпер усё ёсць у крамах, навошта гнуць спіну на агародах? Мяркую па сваіх аднавяскоўцах. Наша вёска ў 8 кіламетрах ад Пінска. Я некалькі разоў на год кладуся ў бальніцу, і ў якое аддзяленне ні траплю, санітаркі, прыбіральшчыцы – усе з нашага калгаса. Людзі бягуць з вёскі. А вы кажаце зямлю прадаваць…

### Уладзімір УШКЕВІЧ,
**дырэктар Гродзенскай абласной асацыяцыі фермераў:**



– У Беларусі і так зямля прадаецца людзям ва ўласнасць: для вядзення асабістай падсобнай гаспадаркі – да 1 гектара, для абслугоўвання жылога дома – да 25 сотак, для вядзення садаводства і агародніцтва – да 15 сотак.

Калі мы гаворым аб продажы сельгасугоддзяў, то, мне здаецца, тут шмат нюансаў.

Па-першае, спатрэбіцца мяняць Канстытуцыю, у нас сельскагаспадарчая зямля знаходзіцца ва ўласнасці дзяржавы. Другі момант: каму прадаваць зямлю? Калі тым, хто на ёй працуе, фермерам, якія ўжо сёння маюць дзясяткі гектараў на правах пажыццёвага валодання або арэнды, то, магчыма, і ў Беларусі наспеў час прадаваць зямлю. Але калі дазволіць купляць каму заўгодна, у тым ліку і замежнікам, то ці не стане зямля глебай для спекуляцый?!

Але ж калі і прадаваць сваім людзям, то што гэта дасць? Трэба, каб быў рынак зямлі, каб я мог закласці гэтую зямлю ў банк і г.д… Проста так ставіць пытанне – прадаваць зямлю ці не – на мой погляд, некарэктна.

### Станіслаў БАГДАНКЕВІЧ,
**доктар эканамічных навук, прафесар, экс-старшыня Нацбанка Беларусі:**



– Я заўсёды быў прыхільнікам рынку зямлі. І сёння не зусім разумею тых украінцаў, якія, па сутнасці, адмаўляюць усякі рынак зямлі. Праўда, я не падтрымліваю ідэю прэзідэнта Зяленскага, што ў адны рукі можна набываць 200 тысяч гектараў зямлі. Мне бліжэй пазіцыя суседняй Польшчы, дзе максімальная плошча ўчастка ва ўласнасці 500 гектараў.

Што тычыцца Беларусі, то, мне здаецца, наша галоўная праблема сёння не зямля, а свабодныя і справядлівыя выбары, аднаўленне прынцыпаў дэмакратыі, свабоды СМІ, вяршэнства закона. Гэта галоўнае! А што вырашаць з зямлёй, калі зразумела, хто намі кіруе.

### Міхаіл ШРУБ,
**кіраўнік сялянскай гаспадаркі (Жыткавіцкі раён):**



– На мой погляд, не гэтае пытанне самае важнае для нас, беларусаў, прадаваць зямлю ці не. У Галандыі больш за 30 працэнтаў зямель знаходзіцца ў арэндзе, і гэта нікому не перашкаджае працаваць і добра жыць. Ёсць іншыя паспяховыя краіны, дзе зямля знаходзіцца толькі ў арэндзе, не ва ўласнасці.

На мой погляд, для нас сёння галоўнае, каб дзейнічала заканадаўства, каб правапрымяняльная практыка была такой, каб выконваўся дагавор арэнды, каб зямлю не забіралі, каб існавала працэдура выдзялення зямель і падтрымкі тых, хто хоча працаваць на ёй. І раней так было! Я як пачынаў? Прыйшоў у банк і ўзяў крэдыт пад 2 працэнты гадавых, купіў трактар, грузавую машыну і пачаў сваю справу. На жаль, з цягам часу артыкул пра крэдытаванне выхаляцілі з Закона аб фермерскай гаспадарцы. Сёння ўзяць фермеру крэдыт у банку тэхнічна амаль немагчыма.

Таксама раней была магчымасць атрымання так званых умоўных паёў: калі ў калгасе працавалі муж і жонка, то ім выдзялялі сямейны пай для арганізацыі фермерскай гаспадаркі. Калгаснік, які жадаў выйсці з агульнай гаспадаркі, мог прэтэндаваць на частку зямлі калгаса. Гэтую норму таксама адмянілі. Зараз, каб атрымаць зямлю, я павінен звярнуцца ў выканкам, прыкладыўшы згоду цапераншняга землекарыстальніка. Хто дасць такую згоду? Кіраўнік сельгаскааператыва? Ды ніколі ў жыцці, таму што яму за гэта нічога не перападзе. Наадварот, ён атрымае канкурэнта, які, магчыма, будзе працаваць лепш і якога яшчэ ў прыклад будуць ставіць.

Вось гэтыя праблемы трэба вырашаць!

І яшчэ такі момант. На мой погляд, для таго каб прыступіць да продажу зямлі, трэба, каб у дзяржаве сфарміраваўся нацыянальны капітал, інакш яна сыдзе пад тыя ж расійскія холдынгі… У беларусаў шмат грошай? Ім ёсць за што купляць зямлю? Давайце лепей зацікавім людзей па-гаспадарску працаваць на зямлі!

**Апытвала Марыя ЭЙСМАНТ.**

### *АД РЭДАКЦЫІ*

Што і казаць, зямельная праблема – лёсавызначальная, і з бухты-барахты яе не вырашыш. Таму «Народная Воля» будзе рада, калі да яе абмеркавання падключыцца яшчэ мноства самых розных людзей.

ПРЕЗЕНТАЦИЯ

# Они – в Совете Республики

В минувшее воскресенье многие кандидаты в депутаты Палаты представителей хотя бы чуть-чуть, но волновались: пройду – не пройду. А вот для тех, кто баллотировался в Совет Республики, это уже было пройденным этапом. Еще 7 ноября на областных собраниях депутатов их судьба решилась окончательно. Правда, можно предположить, какая там была конкуренция, какое было голосование, если ни одного претендента не лишили депутатского мандата. Центральная комиссия по выборам и проведению республиканских референдумов официально обнародовала список 56 членов Совета Республики следующего созыва. Вот кто вошел в верхнюю палату Национального собрания.

## От Брестской области:

**КАРПИЦКИЙ Александр Сергеевич**, 1960 года рождения, главный врач учреждения здравоохранения «Брестская областная больница».

**МАРКЕВИЧ Василий Петрович**, 1958 года рождения, генеральный директор открытого акционерного общества «Птицефабрика «Дружба».

**НАРКЕВИЧ Юрий Иосифович**, 1964 года рождения, председатель Брестского областного Совета депутатов.

**ПРОТОСОВИЦКИЙ Григорий Васильевич**, 1961 года рождения, председатель Столинского районного исполнительного комитета.

**САЧКОВСКАЯ Ирина Юльяновна**, 1968 года рождения, заведующая нотариальной конторой города Пинска.

**ХРОЛЕНКО Владимир Федорович**, 1963 года рождения, директор открытого акционерного общества «Пароконское».

**ШАТЛИКОВА Тамара Анатольевна**, 1961 года рождения, председатель Брестской областной коллегии адвокатов.

**ШОЛТАНЮК Анатолий Витальевич**, 1962 года рождения, председатель Жабинковского районного Совета депутатов.

## От Витебской области:

**ДЕМИДОВ Дмитрий Владимирович**, 1975 года рождения, председатель Новополоцкого городского исполнительного комитета.

**ДЕРКАЧ Юрий Николаевич**, 1962 года рождения, начальник главного управления по здравоохранению Витебского областного исполнительного комитета.

**ЖИНГЕЛЬ Олег Валентинович**, 1967 года рождения, начальник региональной дирекции по Витебской области открытого акционерного общества «Белагропромбанк».

**ЛЕВКОВИЧ Ирина Петровна**, 1964 года рождения, начальник главного управления торговли и услуг Витебского областного исполнительного комитета.

**МАТВЕЕВ Владимир Семенович**, 1964 года рождения, генеральный директор коммунального проектно-ремонтно-строительного унитарного предприятия «Витебскоблдорстрой».

**ПАНТЮХОВА Елена Валерьяновна**, 1972 года рождения, директор республиканского унитарного предприятия радиотелецентр «Телерадиокомпания «Витебск».

**ПОЛУШКИНА Татьяна Геннадьевна**, 1957 года рождения, директор Полоцкого колледжа учреждения образования «Витебский государственный университет имени П.М.Машерова».

**ЩАСТНЫЙ Анатолий Тадеушевич**, 1961 года рождения, ректор учреждения образования «Витебский государственный ордена Дружбы народов медицинский университет».

## От Гомельской области:

**АБЕЛЬ Татьяна Валерьевна**, 1964 года рождения, художественный руководитель заслуженного любительского коллектива Республики Беларусь народного цирка имени Валерия Абеля государственного учреждения «Дворец культуры «Костюковка».

**КОТОВИЧ Владимир Олегович**, 1962 года рождения, заведующий отделением микрохирургии глаза учреждения «Гомельская областная специализированная клиническая больница».

**ЛЯХОВ Александр Андреевич**, 1962 года рождения, генеральный директор государственного производственного объединения «Белоруснефть».

**НЕВЕРОВ Алексей Николаевич**, 1973 года рождения, председатель Гомельского областного объединения организаций профсоюзов, входящих в Федерацию профсоюзов Беларуси.

**СЛИНЬКО Олег Михайлович**, 1975 года рождения, директор коммунального сельскохозяйственного унитарного предприятия «Совхоз-комбинат «Заря».

**СМОЛЯК Алла Викторовна**, 1973 года рождения, председатель Гомельской областной организации Белорусского Общества Красного Креста.

**ШИШКИН Андрей Геннадьевич**, 1972 года рождения, главный редактор рогачевской районной газеты «Свабоднае слова».

**ЯШКОВ Феликс Валентинович**, 1964 года рождения, начальник Гомельской таможни.

## От Гродненской области:

**БАЙКО Валентин Валентинович**, 1969 года рождения, заместитель директора общества с ограниченной ответственностью «Конте Спа».

**ГЕДИЧ Игорь Николаевич**, 1971 года рождения, директор Гродненского областного драматического театра.

**ЛИСКОВИЧ Виктор Андреевич**, 1960 года рождения, заместитель председателя Гродненского областного исполнительного комитета.

**РОМАНОВ Олег Александрович**, 1975 года рождения, первый проректор Гродненского государственного университета имени Янки Купалы.

**СЕРАФИНОВИЧ Екатерина Адамовна**, 1965 года рождения, главный редактор Лидской районной газеты.

**СНЕЖИЦКИЙ Виктор Александрович**, 1959 года рождения, ректор Гродненского государственного медицинского университета.

**СОРОКО Эльвира Алексеевна**, 1968 года рождения, директор Новогрудского государственного сельскохозяйственного профессионального лицея.

**ШИШКО Александр Николаевич**, 1959 года рождения, председатель сельскохозяйственного производственного кооператива «Озёры» Гродненского района.

## От Минской области:

**БАЧИЛО Александр Александрович**, 1961 года рождения, начальник главного управления юстиции Минского областного исполнительного комитета.

**ГАЙДУКЕВИЧ Валерий Владимирович**, 1953 года рождения, депутат Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь шестого созыва.

**ГОЛОВАТЫЙ Иван Иванович**, 1976 года рождения, генеральный директор открытого акционерного общества «Беларуськалий».

**ЗЯБЛИКОВА Елена Олеговна**, 1967 года рождения, председатель Борисовского районного объединения организаций профсоюзов, входящих в Федерацию профсоюзов Беларуси.

**КАПУЦКАЯ Калина Викторовна**, 1975 года рождения, директор средней школы №14 г.Молодечно.

**ЛУКЬЯНОВ Владимир Михайлович**, 1972 года рождения, генеральный директор открытого акционерного общества «Агрокомбинат Дзержинский» Дзержинского района.

**СУКОНКО Олег Григорьевич**, 1951 года рождения, директор Республиканского научно-практического центра онкологии и медицинской радиологии имени Н.Н.Александрова.

**ЯКУБИЦКАЯ Наталья Викторовна**, 1971 года рождения, председатель Минского областного Совета депутатов.

## От Могилевской области:

**АНАНИЧ Виктор Михайлович**, 1963 года рождения, председатель правления открытого акционерного общества «Сберегательный банк «Беларусбанк».

**АНЮХОВСКИЙ Сергей Анатольевич**, 1980 года рождения, директор открытого акционерного общества «Красный пищевик».

**ВОРОНЮК Дмитрий Сергеевич**, 1987 года рождения, первый секретарь Центрального комитета общественного объединения «Белорусский республиканский союз молодежи».

**ДЬЯЧЕНКО Олег Викторович**, 1971 года рождения, проректор Могилевского государственного университета имени А.А.Кулешова.

**КАСКО Игорь Борисович**, 1971 года рождения, главный врач Могилевской областной детской больницы.

**КУШНАРЕНКО Алексей Иванович**, 1975 года рождения, генеральный директор государственного производственного объединения по топливу и газификации «Белтопгаз».

**ПОЛИЩУК Валерий Николаевич**, 1963 года рождения, начальник Могилевского института Министерства внутренних дел Республики Беларусь.

**ПОРТНИК Олег Петрович**, 1959 года рождения, директор унитарного коммунального сельскохозяйственного предприятия «Совхоз «Доброволец» Кличевского района.

## От города Минска:

**ДРОЗДОВСКИЙ Константин Викентьевич**, 1974 года рождения, директор Республиканского научно-практического центра детской хирургии.

**ИВАНЕЦ Андрей Иванович**, 1984 года рождения, главный ученый секретарь Национальной академии наук Беларуси.

**ИЛЬИНА Марина Александровна**, 1970 года рождения, директор гимназии №10 г.Минска.

**РУММО Олег Олегович**, 1970 года рождения, директор Минского научно-практического центра хирургии, трансплантологии и гематологии.

**РУНЕЦ Татьяна Аркадьевна**, 1969 года рождения, начальник Главного управления Министерства финансов Республики Беларусь по г.Минску.

**РУСАКОВИЧ Андрей Владимирович**, 1965 года рождения, заведующий кафедрой дипломатической и консульской службы факультета международных отношений Белорусского государственного университета.

**СИВЕЦ Сергей Михайлович**, 1973 года рождения, заместитель директора Национального центра законодательства и правовых исследований Республики Беларусь.

**ЧАЙЧИЦ Виктор Иванович**, 1960 года рождения, председатель Белорусской республиканской коллегии адвокатов.

***

По закону восемь кандидатур в Совет Республики представит еще Александр Лукашенко. Кто попадет в президентскую квоту, нетрудно догадаться. В основном знакомые лица.

СМЕХАТУРА

# У школе наладзілі дзіцячыя выбары

У Гродне ў дзень парламенцкіх выбараў у школе №33 дзецям прапанавалі прагаласаваць за яблыкі, грушы, вішні і іншую садавіну.

Усё было зроблена па-сапраўднаму: дзяцей, як і дарослых, запрашалі ўзяць удзел у выбарах. Побач з участкам для дарослых, на якім абіралі дэпутата парламента, працаваў дзіцячы ўчастак. У гэтых выбарах удзел маглі браць гродзенцы да 18 гадоў. Тут дзейнічала свая выбарчая камісія з падлеткаў, бюлетэні, кабінкі для галасавання і пяць кандыдатаў: яблык, груша, вішня, дыня, маліна.

Пераможцы ў дзіцячых выбарах прэтэндуюць стаць сокам, пюрэ або ўвайсці ў склад іншых харчовых прадуктаў. Вынікі дзіцячага галасавання абяцаюць улічыць пры вырабе сваёй прадукцыі гродзенскія прадпрыемствы. Дзіцячыя выбары былі арганізаваны пры дапамозе БРСМ.

Цікава, а як падлічваліся галасы і падводзіліся вынікі гэтага галасавання – адкрыта і празрыста альбо ў інтарэсах нейкіх прадпрыемстваў харчовай прамысловасці?

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**



**На здымку: падчас дзіцячых выбараў у Гродне.**

СТАЛА ВЯДОМА...

## Як урад збіраецца ратаваць адсталыя раёны Гродзеншчыны

*Савет міністраў зацвердзіў план развіцця асобных рэгіёнаў, якія адстаюць па ўзроўні сацыяльна-эканамічнага развіцця. Паводле гэтага дакумента, тром раёнам Гродзенскай вобласці – Свіслацкаму, Воранаўскаму і Зэльвенскаму патрэбна дапамога. У дакуменце адзначаецца, што тут адсутнічаюць буйныя прамысловыя прадпрыемствы і яны не вельмі прывабныя для інвестараў, а таксама пералічваюцца ўсе канкрэтныя праекты для іх аздараўлення.*

### Зэльвенскі раён

У рэгіёне пабудуюць станцыі абезжалезвання і ачышчальныя збудаванні, газаправод і вулічныя сеткі газазабеспячэння ў аграгарадку Кошалі. У 2020 годзе ў раёне з'явіцца вытворчасць паліўных гранул і невялікае прадпрыемства па вырошчванні грыбоў, а таксама будзе пабудавана прадуктовая крама ў раённым цэнтры. У мясцовай бальніцы пройдзе капітальны рамонт з мадэрнізацыяй харчблока. Патэнцыяльны інвестар прапануе пабудаваць у раёне аўтамыйку са станцыяй тэхнічнага абслугоўвання легкавых і вялікагрузных аўтамабіляў і рэканструяваць незавершанае будаўніцтва будынка палiклiнікі ў Зэльве пад аб'ект медыцынскага прызначэння.

Зэльвенскі раён лічыцца адным з самых апусцелых і старэючых раёнаў Беларусі. З 2001 года тут больш за ўсё скарацілася колькасць насельніцтва (на 43%) і тут самы высокі працэнт сталых людзей.

### Свіслацкі раён

У раёне намечана будаўніцтва дадатковай залы на малочна-таварнай ферме, станцыі абезжалезвання і ачышчальных збудаванняў, а таксама кантэйнерных тэрміналаў і лагістычнага цэнтра. Ужо ў наступным годзе ў раёне з'явіцца тэрмінал па перагрузцы вадкіх хімічных прадуктаў. На тэрыторыі былога вайсковага гарадка ў 2020 годзе павінен запрацаваць яшчэ адзін лагістычны тэрмінал.

Да 2025 года ў Свіслацкім раёне пачне выпускаць прадукцыю дрэваперапрацоўчае прадпрыемства. Да 2025 года абяцаюць стварыць у раёне 500 новых працоўных месцаў.

Акрамя гэтага інвестарам прапаноўваюць пабудаваць у раёне аптэва-лагістычны цэнтр альбо арганізаваць вытворчасць будаўнічых матэрыялаў на базе нявыкарыстанага Свіслацкага ўчастка Мастоўскай МПМК-155. А яшчэ – вырошчваць зялёную ў цяпліцах на базе невыкарыстоўваемай маёмасці «Свіслацкай сельгастэхнікі».

### Воранаўскі раён

Зыходзячы з дакумента, у Воранаўскім раёне ў прадпрыемства «Доцішкі» з'явіцца новае сховішча для садавіны, будуць рэканструяваны дзве малочна-таварныя фермы і пабудаваны цялятнік на 420 галоў. У 2021–2022 гадах плануецца мадэрнізаваць Радунскі ўчастак «Лідахарчканцэнтратаў». Будуць пабудаваны станцыі абезжалезвання і ачышчальныя збудаванні. У Радуні павінен з'явіцца гасцінічны комплекс, а ў раёне – новыя гандлёвыя аб'екты.

Для інвестараў існуюць прапановы па арганізацыі вытворчасці паглыбленай перапрацоўкі бульбы альбо вытворчасці па разліве вады для піцця. У Воранаўскім раёне прапануюць пабудаваць «зону чакання» з прымяненнем электроннай чаргі пасля міжнароднага аўтамабільнага пункта пропуску «Бенякони-1». Акрамя гэтага ў раёне рэалізуюць трансгранічны праект, у якім удзельнічаюць два гарады – беларускі Воранава і літоўскі Алітус. Дзякуючы гэтай праграме, у раёне дзейнічаюць перасоўныя ФАПы, якія абслугоўваюць аддаленыя вёскі.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

Падрыхтавана паводле пастановы Саўміна ад 09.11.2019 года №689.

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## Як чагосьці ў вас не стане – скралі іншапланецяне

З красавіка па кастрычнік жывёлагадоўчы комплекс у Полацкім раёне страціў 16 кароў, якія пасвіліся ў статку кругласутачна. Двое мясцовых жыхароў выкрадалі кароў са статка, у лесе іх забівалі і прадавалі мяса перакупшчыкам.

Варта ўсё ж сказаць спачатку:
Вельмі шмат было кароў
У тутэйшым дойным статку,
А надоі – будзь здароў!
Пагалоўе ўсё на лета
Выганялася з хлява.
І зусім не дзіўна гэта:
Сакавітая трава
Для жывёлы, несумненна,
Лепш, чым леташні сянаж
Ці залеташняе сена.
А за фермаю наўсцяж
Дываном шматкаляровым
Разаслаўся звонкі луг.
Надта ўежна там каровам,
Ім не трэба і пастух.
Дык, бадай, пастух-латруга
Не хадзіў і сапраўды,
Бо каб ён цягаўся з пугай,
Не было б затым бяды.
Без належнае аховы
Са шматлікай чарады
Пачалі знікаць каровы
Немаведама куды.
Не адразу сем ці восем –
Прападалі па адной.
І часцей чамусьці ўвосень,
Хоць знікалі і вясной.
І няма з навалай зладу.
Вінавацілі ваўкоў,
Бо яны крадуць гавяду
У людзей спакон вякоў.
А затым прыйшлі да згоды:
Гэта ўсё-ткі не ваўкі,
Бо драпежнікі заўсёды
Рвуць жывёлу на шматкі,
Застаюцца толькі косці
Ад абгрызеных кароў.
Дык пакінулі б хоць штосьці,
І была б на лузе кроў.
Дзе ж каровы? Вось пытанне!
Хтось развеяў каламуць:
– Гэта ж іншапланецяне
Іх для доследаў крадуць!
Я чытаў у прэсе дзесьці,
Што й людзей крадуць яны,
Каб даследчыкам завезці.
След у справе не зямны!
Хоць цікава ён талкуе,
Але ўсё ж лухту нясе.
Ды гіпотэзу такую
Прынялі амаль што ўсе.
«Для такой карыснай мэты, –
Парашыла грамада, –
Жыхарам другой планеты
І каровы не шкада.
Іх у статку да халеры,
Нават ёсць яшчэ й быкі!»
І далі, напэўна, веры
Фермы той кіраўнікі,
Што худоба й праўда ў космас
Паляцела ў гэты год,
Хоць ні прама і ні ўскосна
Не пацвердзіўся палёт.
На зладзеяў выпадкова
Выйшлі ўсё ж… Як з чарады
Знікла зноў адна карова,
Дык у лес вялі сляды.
Як пайшоў слядак па следзе,
На адной з глухіх палян
Ён якраз зладзеяў згледзеў –
Хіжых «іншапланецян».
Ім прыйшлося праўду-матку
Расказаць, само сабой,
Як кароў лавілі ў статку
І вадзілі на забой.
Прывялі сюды сяляне
Пагалоўя столькі шмат,
Што стварыўся на паляне
Ледзь не мясакамбінат!
Не залежвалася мяса –
Быў у іх належны збыт.
Не злавілі б іх, дык з часам
Узрастаў бы апетыт…

* * *

Беларусам шараговым,
А тым больш кіраўнікам
(Нават цёлкам і каровам!)
Я, бадай, падказку дам:
Як чагосьці ў вас не стане,
Калі штосьці прападзе,
Знайце: «іншапланецяне»
Ні пры чым у той бядзе.

### Мужчыны – ветраныя

Кажа яна:
– У мужчын
Ветраныя мазгі:
Сёння цалуе адзін,
Заўтра цалуе другі…

### Не тая тара

Я выпіў толькі кружак пару
І ўжо папоўз, нібы чарвяк.
Напэўна, у такую тару
Не налівацьму больш каньяк.

### Ідэальная пара

Госць – з усмешкаю на твары:
– Павіншую жаніха я,
Бо не знаю лепшай пары:
Ты храпеш, яна – глухая…

СПАДЧЫНА

# Каб не перасохлі песенныя крыніцы

Вандруючы па Беларусі, я неаднойчы заўважаў, як вясковыя фальклорныя гурты не вельмі дбайна ставяцца да беларускай традыцыйнай песеннай культуры, да народных абрадаў і традыцый свайго рэгіёна. А яны ж заглыблены ў гісторыю, яны ж дасталіся нам у спадчыну «ад прадзедаў спакон вякоў»!

Мне ў жыцці пашчасціла – першыя крокі ў мастацтва я зрабіў у Тураве, на зямлі славутага Кірылы Тураўскага. Надпрыпяцкі край багаты і на ўраджайныя землі, і на працавітых людзей. Памятаю, як увесну палешукі вялі ў полі юраўскія карагоды, а ў жніво з любоўю спявалі: *«Ой, жніце, жніце, жнеячкі, / няхай будзе пагодачка, / хай спорыцца работачка»*. Прыбраўшы з поля ўраджай, гулялі вяселлі, і я, малады харэограф, хадзіў і ездзіў ад вёскі да вёскі па Жыткавіцкім, Петрыкаўскім, Лельчыцкім і Мазырскім раёнах, каб занатаваць вясельныя песні і абрады. Тыя экспедыцыі сталі для мяне своеасаблівымі народазнаўчымі ўніверсітэтамі.

Сёння ж мала дзе ў вёсцы пачуеш беларускую народную песню, пабачыш народны танец. Паўсюль, нават на гэтак званых святах вёскі, са сцэны гучыць рускамоўная папса. Таму я нізка кланяюся тым калектывам, якія маюць у сваім рэпертуары песні, пачутыя калісьці ад бабуль. Як ветэран сцэны звяртаюся да кіраўнікоў песенных калектываў: развучвайце і спявайце песні на роднай мове! Без сваёй песні народ ператворыцца ў бязмоўнае насельніцтва!



Кіраўнікі і ўдзельнікі мастацкіх калектываў з настальгіяй успамінаюць тыя часы, калі Міністэрства культуры праводзіла агляды фальклорных калектываў, пераможцы якіх траплялі на канцэрты ў абласныя цэнтры, у сталіцу. Не выпускаліся з-пад увагі і дзіцячыя гурты. Мне могуць сказаць: і цяпер ладзяцца такія агляды. Так, ладзяцца. Але калі раней падобныя мерапрыемствы праходзілі дні тры, то сёння – дзве-тры гадзіны. І заключных выступленняў на сталічных сцэнах не чутно і не відно.

За сваё жыццё я заснаваў ажно пяць народных калектываў (званне прысуджана Мінкультам) – «Прыпяць» і «Верасок» у Жыткавіцкім раёне, «Кола» пры Мінскім абласным цэнтры культуры, «Ніва» ў вёсцы Рэмель Столінскага раёна, фальклорны тэатр «Матуліна хата» ў Мінску. Ансамблю «Прыпяць» сёлета споўнілася 55 гадоў. На юбілейны канцэрт у Тураў з'ехаліся сівыя «ветэраны» са сваімі дзецьмі і ўнукамі. Прыехаў з Ленінградскай вобласці заслужаны артыст Расіі Фёдар Сядзельнік, далучыліся да землякоў ваенны пенсіянер з Расіі Іван Матож і падпалкоўнік міліцыі з Гомеля Міхась Дзедавец, чыя маці Настасся Дзедавец калісьці запявала: *«Па-над Прыпяццю, ціхай ракою, / старажытны наш Тураў стаіць. / Навакол неабсяжнай сцяною / залатая пшаніца шуміць»*.

На беразе Прыпяці было зладжана сапраўднае свята беларускай песні і танца. Дзякуй усім, хто дапамог яго правесці, – бізнесмену і пісьменніку Валерыю Сароку, прадпрымальніку Францу Жылку, настаўніцы з Турава Таццяне Мароз, менеджару Юрасю Котаву, спявачцы Кацярыне Пяршлевіч, генерал-лейтэнанту Алегу Курчэўскаму, сямейнаму ансамблю «Абібокі», супрацоўнікам Жыткавіцкага райвыканкама. Дзякуючы вам, шаноўныя, не перасохлі песенныя крыніцы на Тураўшчыне, а значыць, Беларусь будзе жыць!

**Мікола КОТАЎ, ганаровы грамадзянін г.Турава.**

АБУРАЛЬНЫ ЛІСТ

## «Извините…»

*З нецярпеннем чакаў, калі на парозе кватэры з'явіцца перапісчык. Бо справа для дзяржавы патрэбная.*

Але мінаюць дзень, два, тры… І нарэшце званок… Перада мною дзяўчынка, якая па ўзросце для мяне ўнучка.

– Заходзьце, даражэнь-кая, заходзьце!

Яна з маленькім камп'ютарам – планшэтам:

– Нет, мы тут, на площадке, поговорим…

А, між іншым, жонка за мною стаіць, і па ўсім бачна, што яна таксама хоча, каб дзяўчынка ў кватэру зайшла.

Хоць нязручна ў тамбуры пра дзяржаўна важныя справы гаварыць, але ж абставіны вымушаюць.

На ўсе пытанні дзяўчынкі – і пра чатыры соткі, і пра кусты смародзіны-парэчкі – мы адказалі.

Склала дзяўчыначка свой планшцэцік. Падзя-кавала…

– А што пра мову нічога не спыталі? – зацікаўлена пытаюся я. – Пра гэта шмат што пішуць…

– А разве для вас не русская родная? – здзівілася дзяўчынка.

– Ад нараджэння – беларуская.

Яна зноў разгарнула планшэт, нешта там памацала і на развітанне сказала: «Извините».

**P.S.** Не вінаватая дзяўчынка. Не! А вось хто яе інструктаваў і з якой мэтай?!



**Генадзь ПАШКОЎ, паэт, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, заслужаны дзеяч культуры Беларусі.**

ЭКОЛОГИЯ ДУШИ

## Изживем сквернословие

Проходя по улице, встретила компанию молодых людей. Сидя на корточках, двое парней «заправлялись» пивом, а стоящая рядом девушка курила. Все были красиво и модно одеты.

Эта встреча могла остаться незамеченной, если бы не отборный мат, которым перемежалась речь парней. Мимо них равнодушно проходили люди, не выражая никаких эмоций. Я сначала тоже прошла мимо, но потом всё-таки вернулась к молодежи, сделала замечание парням: неприлично в присутствии девушки выражаться нецензурными словами. В ответ: «Да она не хуже нас матерится!..»

В последнее время ненормативная лексика часто слышится не только среди взрослых, но и в среде юных, даже детсадовские дети, случается, так вульгарно обзывают друг друга, что хочется спросить: «У кого учитесь?»

Мат можно услышать везде: на улице, в метро, в электричке, в больнице, в солидных учреждениях, даже в школе. Более того, кое-кто из молодежи уверен, что материться не только можно, но и нужно, чтобы подчеркнуть важность, стильность, престижность и современность. Именно подростки своей убогой несформированной речью глубоко рыхлят почву для выращивания сквернословия в таком масштабе, что уже сегодня можно говорить об угрозе «девятого вала» нецензурщины.

Кстати, в белорусском языке нет нецензурных слов. Вот тот случай, когда вред соседства с той страной, откуда пришел к нам мат, налицо.

Ученые установили, что матные слова вызывают мутационногенный эффект, подобный тому, что дает радиационное излучение мощностью 30 тысяч рентген. Не из-за того ли у нас всё больше и больше появляется на свет уродов? Наукой доказано, что слова воздействуют на ДНК. Да это, в принципе, известно еще с древних времен, когда молитвами святых исцелялись безнадежно больные.

Ругающийся матом человек не только оскверняет свои уста, но и льет грязь в уши окружающих, зачастую развращая их. И, как следствие, вовлекается в сферу влияния нечистой силы. Убиваются детская чистота, женская стыдливость, мужское благородство.

Особенно пагубно влияет сквернословие на детские души. Дети, выросшие среди площадной брани, становятся духовно ущербными. У детей же, привыкших к целомудренной речи, вырабатывается стойкое отвращение к сквернословию. Эта брезгливость является надежной защитой от общения с дурной компанией.

А еще ученые доказывают, что скверные слова собираются в окружающей среде в сгустки отрицательной энергии и могут вызывать различные природные катаклизмы, очевидцами которых мы сами являемся.

Вот почему, проходя мимо любой компании, где слышен мат, я останавливаюсь и прошу прекратить сквернословить. Выслушав мои убедительные доводы насчет того, какой вред приносит им ругательная лексика, ребята извиняются и переходят на нормальное общение. И меня это радует.

**Тамара Ивановна ТАРАСОВА, педагог, ветеран труда.**
*г.Фаниполь Дзержинского района.*

ПИСЬМО ИЗ ЯПОНИИ

## Хочу познакомиться с белорусской женщиной

Многоуважаемая «Народная Воля»!

Хочу через газету познакомиться с кем-либо из белорусских женщин.

Я – японец, мне 47 лет, рост 176 сантиметров. Живу в Токио, один. У меня веселый характер. Оптимист. Разговаривать могу как на родном языке, так и на английском.

Ищу белорусскую женщину для общения. Вот мой адрес (см. ниже).

**Хироси ХАРАДА.**




ПРОБЛЕМА

## Почему в Беларуси забыты дети войны?

Помнится, еще во времена Машерова в Беларуси собирались поставить памятник детям войны. Тогдашний руководитель БССР как участник Великой Отечественной прекрасно понимал, что дети тоже внесли свою лепту в победу над фашизмом. Тысячи белорусских гаврошей сражались с оружием в руках против немецких захватчиков, были партизанами, многие выполняли роль связных.

В советской Беларуси в машеровские времена к послевоенным детям-сиротам, чьи родители погибли на полях сражений, было уважительное отношение. К сожалению, при теперешней власти мы, дети-сироты, совсем забыты, не защищены Законом РБ «О ветеранах». Был бы жив Петр Миронович, я думаю, все было бы по-другому.

Не хочет возвращаться сегодняшняя власть и к идее памятника. Разве в Беларуси, богатой на талантливых художников, не найдется скульптора, способного осмыслить и воплотить в материале благодарность и благородство наших современников по отношению к детям войны? Что, важнее воздвигать ледовые дворцы и резиденции, удивляющие всех посетителей своей роскошью?

Почему руководство вроде как социально ориентированной страны нас игнорирует, не хочет нам хоть как-то помочь? Пенсии у нас всего около 250 рублей, ведь бóльших мы не могли заработать.

Признаться, надеяться на серьезную государственную поддержку нам уже невмоготу. За последние десятилетия мы просто устали доказывать свою правоту Министерству социальной защиты, почувствовали свое полное бессилие от невозможности что-то объяснить, уж не говоря о том, чтобы что-то изменить.

Нас, чудом достигнувших преклонных лет, в живых осталось совсем мало. И по своим квартирам мы передвигаемся кто с помощью костылей, а кто и на четвереньках. Нас никто не замечает, не видит и не слышит. Нам осталось дождаться только последней помощи (так называемых «гробовых») и тихо уйти в мир иной...

**Ольга МОСКАЛЕВА.**
*г.Орша.*

ДАЖЫЛІСЯ...

# Хочаш працаваць настаўніцай? Здай аналіз на ганарэю

Усім вядома, што адзін раз у год настаўнікі павінны прайсці абавязковы медыцынскі агляд – здаць аналізы, зрабіць кардыяграму, наведаць тэрапеўта, а жанчыны – яшчэ і жаночую кансультацыю. Так было раней. А зараз, згодна з пастановай Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь «Аб правядзенні абавязковых і пазачарговых медыцынскіх аглядаў працоўных» ад 29 ліпеня 2019 года за подпісам міністра В.С.Караніка, настаўнікі павінны праходзіць яшчэ псіхіятра і нарколага, здаць аналізы на ганарэю (а чаму не на сіфіліс?).

Гэта можна яшчэ зразумець, калі нехта ўладкоўваецца на работу ўпершыню, тады псіхіятр ці нарколаг можа пацвердзіць толькі тое, што пацыент не стаіць на ўліку, і не больш. А калі настаўнік добрасумленна працуе не адзін дзень, не год, а некалькі дзесяцігоддзяў – навошта гэтая спецыяльная муштра? Чаму чыноўнікі, якія прымалі гэтую пастанову, лічаць некампетэнтнымі дырэктараў школ? Доктар бачыць таго, хто прыйшоў на прыём, можа, раз у год ці наогул першы раз, дырэктар бачыць сваіх падначаленых кожны дзень. І атрымліваецца, што я – выкладчык вышэйшай катэгорыі, са сваім абсалютна цвярозым укладам жыцця сяджу ў чарзе да нарколага разам з тымі, хто без гарэлкі жыць не можа. А побач у чарзе да акуліста сядзіць бацька майго вучня і са здзіўленнем глядзіць на мяне. І гэты подпіс – проста фармальнасць. І дактары гэта таксама добра разумеюць. Але каму з гэтага карысць? Настаўнікам – не, медыкам – не, іх завалілі адпіскамі з ног да галавы. Паліклінікі і так перапоўнены чэргамі хворых. Грамадству ў цэлым – таксама не. І нават прыродзе бюракратычная валакіта прыносіць толькі шкоду, бо тоны паперы ідуць у сметнік. І ніхто не думае, што на выраб паперы знішчаецца лес. А ці кожны з чыноўнікаў пасадзіў хоць адно дрэва? У Ізраілі кожную вясну школьнікі садзяць дрэвы. Было б вельмі добра, калі б і ў нас тыя, хто так «клапоціцца» пра здароўе настаўнікаў, лепш садзілі б дрэвы.

І ў дадзенай сітуацыі мне ўзгадваецца выдатны піяніст і грамадзянін з высокай унутранай адказнасцю – Святаслаў Рыхтар, які некалі казаў, што ён не можа сабе дазволіць, каб на століку ў вагоне цягніка «калыхаўся» забыты кавалачак цукру. Бо за гэтым рафінадам ён бачыў патрачаны час і працу соцень людзей – сялян, аграномаў, вадзіцеляў, работнікаў заводаў і г.д. Вядомы ва ўсім свеце музыкант вельмі цаніў не толькі свой час, але і час іншых.

У нас жа чыноўніца з міністэрства абураецца на маё тэлефанаванне, што я падымаю гэтую праблему: маўляў, гэта такая дробязь. Але ўсё наша жыццё якраз і складваецца з дробязяў. І навошта ў маштабах краіны тысячам настаўнікаў траціць свой час у чэргах да нарколагаў і псіхіятраў? Чаму чыноўнікі крадуць наш час, а гэта значыць наша жыццё?

Яшчэ адно меркаванне, якое мне хацелася б выказаць, – гэта тэма прышчэпак. Стаўленне да прышчэпак нават у саміх дактароў неадназначнае. Бо прышчэпка – гэта пэўная правакацыя арганізма. І на гэта ў кожнага свая рэакцыя. Можа, камусьці яны патрэбны – на здароўе! У мяне іншае меркаванне. Бо я лічу, што самая лепшая прышчэпка – гэта тая, якую мне падараваў Бог, – мая імунная сістэма. Вырваўшыся дваццаць гадоў таму з медыцынскага палону, я выпрацавала свае метады і спосабы падтрымкі гэтай сістэмы кожны дзень у моцнай форме. Тым не менш, калі я нават здаровая і не нясу ніякіх пагроз іншым і адмаўляюся ад прышчэпак – пачынаюцца праблемы з подпісам даведкі аб стане здароўя і допуску да работы. І ў якасці аргумента мне навязваюць, што, маўляў, магу некалі захварэць і некага заразіць. Хаця прышчэпка – гэта не абсалютная панацэя. Аднак у нас па вуліцах ходзяць патэнцыяльныя злачынцы і, магчыма, нават забойцы, але іх жа ніхто не ізаліруе заўчасна. Дарэчы, кожны вадзіцель за рулём аўтамабіля патэнцыяльна таксама небяспечны, бо на дарогах могуць узнікнуць у любы час непрадбачаныя сітуацыі. І калі кіравацца такой логікай, як гэта робяць некаторыя выдумшчыкі падобных пастаноў, то тады трэба пазбаўляць і вадзіцеляў усіх правоў. Вось і выходзіць, што нейкі «дзядзька» распараджаецца маім жыццём… А па якім праве? У нас ёсць крымінальная адказнасць за крадзеж матэрыяльнай маёмасці. А я мару аб тым, каб была адказнасць яшчэ і за крадзеж ЧАСУ – гэтай найвялікшай дазіраванай каштоўнасці, дадзенай Усявышнім.

**Святлана АБДУЛАЕВА, выкладчык Дзіцячай школы мастацтваў з 35-годовым стажам, член Міжнароднай асацыяцыі пісьменнікаў і публіцыстаў.**
*г.Навагрудак.*

